PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1828) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 26 МАЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.



**У. Бутрамееў. „Страсці па Аўдзею". Сцэна са спектакля.**

## КУПАЛАЎЦЫ ЕДУЦЬ У БЕЛАСТОК



Вось, нарэшце, і прыязджаем мы да вас, хоць пачалі марыць аб гэтым і збірацца вельмі даўно. Не ўсё, вядома, залежала ад нас. Няўжо так і не дачакаемся той часіны, калі можна будзе любому тэатральнаму калектыву прыехаць свабодна туды, дзе яго чакаюць, каб паказаць свае лепшыя спектаклі? Тым болей, калі жывём па-суседску, і адлегласці не такія ўжо і вялікія.

Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы нядаўна адсвяткаваў сваё сямідзесяцігоддзе. Тэатр прайшоў даволі вялікі і складаны шлях, на якім было рознае — і ўзлёты, і падзенні... Але ён усё ж захаваў аблічча сапраўды нацыянальнага тэатра, важнага асяродка беларушчыны і беларускай культуры, таму што ў лепшых сваіх спектаклях, створаных пераважна па творах беларускай драматургіі, адлюстроўваў сапраўднае жыццё народа, яго мары і спадзяванні, яго надзеі і прывідную веру ў будучае лепшае жыццё. Тэатр заўсёды быў славуты сваёй плённай традыцыяй высокапрафесійнага акцёрскага майстэрства, у аснове якой творчасць выдатных майстроў беларускай сцэны, такіх, як Уладзімір Крыловіч, Глеб Глебаў, Барыс Платонаў, Лідзія Ржэцкая, Уладзімір Уладамірскі, Уладзімір Дзядзюшка і іншыя.

Пасля славутых падзей на Дзяды ў Мінску ў кастрычніку 1988 года, калі адбылася фактычна першая ў СССР пасля пачатку перабудовы сутычка народу з міліцыяй, вайскамі МУС і спецвойскамі — своеасаблівая рэпетыцыя наступных крывавых інцыдэнтаў у Тбілісі, Баку, Вільні і г.д., купалаўскі тэатр стаў у пэўнай ступені цэнтрам не толькі культурна-асветніцкага, але і грамадскага жыцця. Пачынаючы са спектакляў па п'есах Я. Шварца „Дракон", І. Малеева „Надзея Путніна, яе час, яе спадарожнікі" (пра ахвяры сталінскіх рэпрэсій), мы імкнемся браць да пастаноўкі творы з выразным сацыяльна-грамадскім і культурна-гістарычным падтэкстам, творы, якія ўзнімаюць надзённыя пытанні жыцця ўсёй нашай нацыі і якія па сваіх мастацкіх якасцях знаходзяць эмацыянальны водгук у сэрцах гледачоў. Сёння на нашай рэпертуарнай афішы „Тутэйшыя" і „Паўлінка" Янкі Купалы, „Ажаніцца — не журыцца" Далецкіх і М. Чарота, „Трыбунал" А. Макаёнка, „Вечар" і „Радавыя" А. Дударава, „Мудрамер" і „Бездань" М. Матукоўскага, „Вежа" А. Дударава і У. Някляева, „Страсці па Аўдзею" У. Бутрамеева, „Цынкавыя хлопчыкі" С. Алексіевіч, — усё гэта спектаклі па творах нашай беларускай класічнай і сучаснай драматургіі. У бліжэйшай перспектыве — адкрыццё гледачу драматургічнай спадчыны Францішка Аляхновіча.

Але што мы пакажам непасрэдна ў Беластоку? Вельмі складана было выбраць з усяго лепшага толькі два спектаклі на такі кароткі тэрмін. Пасля доўгага роздуму і бурных абмеркаванняў спыніліся на „Страсцях па Аўдзею" („Крык на хутары") Уладзіміра Бутрамеева і „Вар'яцкім жыцці" Сямёна Злот-

(Працяг на стар. 4)

## У ГАЙНАЎСКІМ БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ



### 1. МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ І ЯЎГЕН ЛЕЦКА

17 красавіка гэтага года беларускі ліцэй у Гайнаўцы наведалі беларускі гісторык Мікола Ермаловіч і старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Яўген Лецка. На сустрэчу з імі з'явілася поўная зала вучняў, настаўнікі ды былы дырэктар школы спадар Аляксандр Іванюк. Мікола Ермаловіч выступіў перад сабранымі з дакладам на тэму гісторыі Беларусі — ад часоў Вялікага княства Літоўскага. Гісторыя Беларусі — гэта гісторыя знішчэння абодвума суседзямі гістарычнай адасобленасці беларускага народа ды адмаўлення яму права на месца ў гэтай жа гісторыі, расказваў Мікола Ермаловіч. Гісторыю гэту твораць, аднак жа, і вялікія нацыянальна-адраджэнскія ўздымы беларускага народа, якія засведчылі пра яго жыццяздольнасць. Пасля выступлення Міколы Ермаловіча ўзнікла дыскусія, у часе якой вучні пыталі, як сёння выглядае адраджэнскі рух на Беларусі, як адбываецца працэс увядзення беларускай мовы ў дзяржаўны ўжытак, як стварайся і якія сабе ставіць мэты Беларускі народны фронт „Адраджэнне". На пытанні галоўным чынам адказваў Яўген Лецка. Як і можна было загадзя спадзявацца, найбольш супярэчлівых выказванняў выклікала справа „нацыянальнай рэлігіі беларусаў" — уніі. Па абодвух баках дзяржаўнай мяжы беларусы па-рознаму ставяцца да уніяцтва. Беласточчына, заўважыў Аляксандр Іванюк, занепакоена фактам пашырэння уніяцтва на Беларусі — каб уніяцтва гэтае не перарадзілася ў ідэалогію, якая пачне знішчаць беларускасць.

### 2. РАЗМОВА З НОВЫМ ДЫРЭКТАРАМ

Карыстаючыся нагодай, што дыскусія пра унію была на бездарожжы, у хуткае вяртанне з якіх я сумняваўся, рашыў я

(Працяг на стар. 3)

## НА МЯЖЫ

— 40 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Англійскія беларусы гэта свайго роду разбіткі, кінутыя хваляй гісторыі на бераг пасляваеннай катастрофы. І вось гэтыя, здавалася б, бездапаможныя людзі знайшлі ў сабе сілы, каб уладкавацца і ўрасці ў англійскае грамадства. На шчасце, гэтае „ўрасці“ не абазначае вырачыся, пазбыцца свайго роднага, беларускага. І тут трэба падкрэсліць выключна пазітыўную ролю святароў-марыянаў, якія прычыніліся ў вялікай ступені да стварэння беларускага лонданскага цэнтра. Аднак сваю добрую справу зрабілі таксама праваслаўныя, якія заснавалі царкоўныя структуры ў Лондане, Манчэстэры і ў Брадфардзе. У гэтым апошнім горадзе дзейнічае выхадзец з Беласточчыны Янка Ясвіловіч. Не толькі ён, але і яго сімпатычная жонка Аня і яго цесць Лемяшонак гэта выдатныя беларускія і царкоўныя дзеячы. Ужо некалькі разоў карыстаў я з іх выключнай гасціннасці.

Вяртаючыся ў Лондан, прагну яшчэ раз падкрэсліць выключную ролю Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны. Увесь навуковы аспект дзейнасці гэтага цэнтра знаходзіцца ў руках чалавека выключнай энергіі, здольнасцей і ахвярнасці а. Аляксандра Надсона. Ці, зрэшты, толькі навуковы? Практычна ўсе справы, звязаныя з цэнтрам — рэлігійныя, культурныя, гаспадарчыя, міжнародныя, вырашаюцца галоўным чынам А. Надсонам. Як бы ўсяго гэтага было мала, у апошні час а. А. Надсон узваліў на свае плечы дадатковы цяжар — дапамогу ахвярам Чарнобыля. Лонданскі цэнтр дзейнічае па прынцыпу самазаваднога швейцарскага гадзінніка. Дасканала ён функцыянуе і тады, калі а. Аляксандр Надсон адсутнічае. Даводзілася мне бываць там, калі святар Надсон вазіў у Беларусь лякарствы. Нягледзячы на яго адсутнасць, цэнтр дзейнічаў на высокіх абаротах. А дзеецца яно так таму, што Надсон мае дасканалых памочнікаў перад усім у асобе Янкі Міхалюка і яго чароўнай жонкі Лёлі — узору ідэальнай маці, жонкі, узору беларускага дзеяча. Пры цэнтры, зрэшты, дзейнічае Беларуская ўправа, у якую ўваходзіць рад беларускіх дзеячоў у Англіі. Калі некаторым з іх можна было б зрабіць закід, дык перад усім такі, што пажаніліся яны з англічанкамі. І хаця некаторыя з гэтых англічанак цудоўныя, моцна прыхільныя беларускай справе жанчыны, напрыклад, жонка Сяргея Дзейкі, то ўсё ж такі вядома, што маладое пакаленне, пайшоўшае з такіх сем'яў, ужо не будзе беларускім. Што там гаварыць, мы ж гэту праблему добра ведаем з нашага ўласнага жыцця.

Здараюцца выпадкі і намнога горшыя. Напрыклад, наведаўшы праваслаўную царкву, сустрэў я праваслаўнага беларуса Доната, які дэманстрацыйна размаўляў са мною па-польску. Калі я яго спытаў, чаму, ён горда адказаў: „Dlatego proszu pana, że jest Polak. A ja jest Polak z tej przyczyny, że jest polski rząd, a białoruskiego rządu nima“. Усе мае контраргументы не далі ніякіх вынікаў і я зразумеў, што гутарка з гэтым чалавекам пазбаўлена сэнсу. Зразумела, што такія людзі, а іх ёсць досыць многа, не прыносяць гонару нашай нацыі. Аднак асноўная маса беларусаў высока трымае штандар беларускай годнасці. Асабістая дружба звязвае мяне з выключна сардэчнымі людзьмі: Сенькам, Рудзем, Дзейкам, Зданковічам, Сяўковічам і многімі іншымі. Вобраз беларускага жыцця ў Лондане быў бы няпоўны, калі б не сказаць аб Веслякоўскім, які выдае часопіс „Голас часу“.

Лонданскі цэнтр ладзіць досыць часта канферэнцыі, семінары, сходы і мерапрыемствы, прысвечаныя гісторыі і сучаснасці Беларусі. На гэтыя мерапрыемствы запрашае дакладчыкаў з Польшчы, Іспаніі, Германіі, Амерыкі, Канады і, зразумела, з Англіі. Усё гэта і стварае высокую інтэлектуальную і навуковую атмасферу. Як жа прыкра, што да нядаўна на гэтыя мерапрыемствы з-за палітычных прычын не прыязджалі дакладчыкі з БССР, хаця цэнтр іх запрашаў. І гэта вельмі дзіўна таму, што ў лонданскім цэнтры ніхто нікому не перашкаджае выказваць свае ідэалагічныя і палітычныя думкі і меркаванні нават тады, калі яны маюць найбольш крайні характар. У Лондане абавязвае ўсіх прынцып поўнай свабоды, якая толькі можа спрыяць добрым беларускім севам і беларускім ураджаям. Там ніхто нікога не пытае пра партыйную прыналежнасць або рэлігійныя вызнанні. Усе погляды і ідэалогіі карыстаюцца тымі самымі правамі і гэта стварае фундамент пад беларускую праўду.

**Алесь Барскі**

## КЛУБ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

У панядзелак, 29 красавіка, у памяшканні БГКТ у Беластоку сабралася звыш дваццаці чалавек — прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Запрасіў іх Гарадскі аддзел БГКТ, які прапанаваў стварыць Клуб беларускай інтэлігенцыі. Аб ініцыятыве заснавання клуба расказвае старшыня аддзела Валянціна Ласкевіч:

— У асяроддзі беларускай інтэлігенцыі існуе свайго роду вакуум. У сваёй большасці гэта група знаходзіцца па-за ўплывам існуючых беларускіх арганізацый. А роля інтэлігенцыі ў фармаванні грамадскай думкі — вялікая і грэхам было б не імкнуцца ўключыць яе ў дзейнасць на беларускай ніве. Такую ініцыятыву трэба было праявіць нам намнога раней. Я спадзявалася, што больш людзей скарыстае з нашага запрашэння і возьме ўдзел у заснавальніцкім сходзе. Інфармацыя аб сустрэчы была даволі шырокая (аб'явы надрукавалі ўсе беластоцкія газеты, паведамляла і радыё). Не ведаю, але можа людзі не вераць ужо ў павыжнасць арганізаваных сустрэч, або няма ў іх патрэбы такіх спатканняў? Адчуваецца, што беларусы падзяліліся. Адна з мэт клуба — пасадзейнічаць інтэграцыі беларускага асяроддзя. Клуб будзе адкрыты для прыхільнікаў усіх палітычных плыняў. Хочам прыцягнуць таксама прадстаўнікоў Праваслаўнай царквы. Тэмай сустрэчы членаў клуба былі б істотныя праблемы нашай грамадскасці. Хочам запрашаць на іх паслоў Беластоцкай зямлі, рэдактараў лакальных газет, вядомых палітычных і гаспадарчых дзеячоў, прадстаўнікоў навукі і культуры, у тым ліку і з БССР.

Удзельнікі спаткання стварылі арганізацыйны камітэт Клуба беларускай інтэлігенцыі ў складзе: Валянціна Ласкевіч, Янка Сычэўскі, Яўген Барада, Янка Целушэцкі і Янка Зенюк. Аргкамітэт зараз працуе над формулай клуба. **(л)**

## КАШТОЎНЫ ПАДАРУНАК

Беласточчыну ў днях 16—19 красавіка наведаў старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“ з Мінска Яўген Лецка. На гэты раз прывёз падарунак ад „Бацькаўшчыны“ беларусам у Польшчы (у мінулым годзе беларускія дзеці на Беласточчыне атрымалі 3 тысячы кніжак „Беларускія народныя казкі“), а менавіта 450 экземпляраў „Старажытнай Беларусі“ Міколы Ермаловіча. Прыехаў таксама сам аўтар — выдатны гісторык, каб сустрэцца з ліцэістамі ў Гайнаўцы і ў Бельску, а таксама са студэнтамі ў Беластоку. Кніга „Старажытная Беларусь“ ужо вядомая ў нас з увагі на сваю пазнаўчую вартасць і таму не дзіўна, што на сустрэчы многія яе куплялі, а да таго з аўтографам аўтара. Гэта бадай першае выданне ў БССР, якое так старанна і выдатна адкрывае нам праўдзівы пачатак станаўлення Беларусі ў даўніх часах. Мікола Ермаловіч — чалавек, які без навуковых званняў прысвяціў сваё жыццё дзеля таго, каб пераканаць, што беларусы — гэта не народ з ласкі суседзяў, а народ, які быў шчодрым для іншых. Беларусь у гісторыі мела сваю веліч і паражэнні. Аўтар „Старажытнай Беларусі“ „збіраў зярно к зярняці, былое ў думках уваскрашаў, каб быт на новы лад пачаці і сеўбу новую пачаць“ (паводле слоў Янкі Купалы). Вялікі дзякуй Яму за гэты скарб.

**Я. М.**

*Кніжку Міколы Ермаловіча „Старажытная Беларусь“ можна купіць у Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку на вуліцы Варшаўскай 11. Цана — 5 тысяч злотых.*

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**З афіцыйным візітам у Польшчу прыбыла дэлегацыя Міністэрства культуры БССР** у складзе: міністр **Яўген Вайтовіч,** віцэ-міністр **Уладзімір Рылатка,** старшыня Беларускага фонду культуры **Іван Чыгрынаў** і старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“ **Яўген Лецка.** Першы дзень візіту госці правялі на Беласточчыне. З польскага боку спадарожнічалі ім віцэ-міністр культуры і мастацтва РП **Міхал Ягела** і дырэктар аддзела па справах нацыянальных меншасцяў **Багуміла Бердыхоўская.** Госці наведалі Беласток і Гайнаўку, сустрэліся з уладамі Беласточчыны і прадстаўнікамі беларускіх арганізацый. У Варшаве было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларуссю ў галіне культуры.

**На святой Гары Грабарцы праходзіла XII Агульнапольскае паломніцтва праваслаўнай моладзі.** У трохдзённай малітоўнай сустрэчы ўдзельнічалі епіскапы Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Разам з маладымі вернікамі з Польшчы маліліся іх равеснікі з Беларусі, Расіі, Украіны, Фінляндыі, Чэхаславакіі, Румыніі і іншых краін.

**X Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка '91“** праходзіў у днях 16-19 мая ў Гайнаўцы. У юбілейным мерапрыемстве прыняло ўдзел 20 калектываў, у тым ліку 8 замежных.

**„Бізнес-парты“** — так называюцца сустрэчы польскіх і савецкіх прадпрыймальнікаў з мэтай дапамагчы ім у развіцці гаспадарчых кантактаў. Арганізатарамі гэтых сустрэч з'яўляюцца **Зофія Шалкоўская** (фірма „Орбіс“) і **Юзаф Пісанка** (фірма „Адвакат“) з Бельска-Падляшскага, а адбываюцца яны ў гасцініцы „Іва“ ў Белавежы. На першую інаўгурацыйную сустрэчу прыехалі 32 польскія прадпрыймальнікі і 18 прадстаўнікоў літоўскіх, латышскіх, грузінскіх, кіргізскіх і беларускіх фірмаў. Удзельнічаў у ёй намеснік гандлёвага саветніка СССР у Польшчы **Таймруз Хачыдзе.**

**Забаставала гарадская камунікацыя ў Беластоку.** Ад панядзелка (13 мая) на вуліцы горада не выехаў ніводзін аўтобус. Страйкуючыя дамагаліся вызваліць з пасады дырэктара прадпрыемства і павысіць зарплату. Перамовы не прывялі да кампрамісу. Гарадская рада на пазачарговым пасяджэнні ў чацвер (16 мая) вырашыла ліквідаваць фірму МПК, а на яе месца стварыць новую.

**Экзамены на атэстат сталасці** ў абодвух беларускіх ліцэях (у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы) здавала 160 вучняў.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

 

# У ГАЙНАЎСКІМ БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ



(Працяг са стар. 1)

чмыхнуць у кабінет Васіля Дамброўскага, які ад 1 красавіка гэтага года стаў новым дырэктарам гайнаўскага ліцэя.

— *На пачатак папрашу сказаць пару слоў пра сябе, як яно сталася, што цяпер вы тут дырэктарам школы?*

**Васіль Дамброўскі:** Нарадзіўся я на Гайнаўшчыне, у вёсцы Пуціска, потым, вядома, пачатковая школа і наш ліцэй у Гайнаўцы. Вышэйшую адукацыю атрымаў ва Універсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, дзе ў 1980 годзе закончыў юрыдычны факультэт. Палітычныя ўмовы ў той час нейк так складаліся, што не пайшоў я працаваць па сваёй прафесіі, але дазволілі мне штудзіраваць яшчэ адно аддзяленне ў гэтым самым універсітэце — нямецкай мовы. У Любліне правучыўся тры гады, а два апошнія ў Познані. Пасля вучобы стаў на працу ў Грубяшове. Тады менавіта і атрымаў ліст ад дырэктара гайнаўскага ліцэя, у якім ён пісаў мне, што ў Гайнаўцы патрэбны два настаўнікі нямецкай мовы. Мая жонка таксама выкладае нямецкую мову, дык пераехалі мы разам у Гайнаўку і пачаўся ўжо сёмы год, як працую тут. Вось так у скарачэнні выглядае мая біяграфія. Падчас вучобы ў ліцэі быў таксама карэспандэнтам „Нівы“ — газета змяшчала мае фатаграфіі, крышку пісаў.

— *Вы з'яўляецеся дырэктарам школы ад нядаўна, ад 1 красавіка, і, мабыць, яшчэ не разгляну́ліся ў сваёй новай працы, але ўсё-такі запытаю, якой Вам паказалася школа з перспектывы Вашай новай функцыі?*

**В. Дамброўскі:** Я ўжо выказваўся на падобныя тэмы, але пакуль што ўсё яно астаецца ў сферы намераў. Найпершай і найважнейшай на сённяшні дзень справай з'яўляецца праект новага будынка школы — давесці да канца працу над ім. Далейшай, не менш важнай справай будзе сама пабудова. Не думаю, што зможам распачаць яе яшчэ ў гэтым годзе — нашы ўлады атрымалі ўсяго дзесятую частку фінансаў, якіх былі запатрабавалі. Вядома ўжо, што ў гэтым годзе не пачнецца пабудова ніводнай школы на Беласточчыне. Што датычыцца самога ліцэя і магчымых у ім арганізацыйных пераўтварэнняў — што тут можна было б сказаць? Нам заўсёды закідалі, таксама і ў „Ніве“, што наша школа зусім не беларуская, бо ў ёй толькі навучаюць беларускую мову як прадмет. Я ўжо калісьці казаў і цяпер таксама паўтару: наш ліцэй ніколі не быў менш беларускі, чым сама Беларусь была беларуская. Без дапамогі ў падручніках, без магчымасці пасылаць выпускнікоў школы ў навучальныя ўстановы ў Беларусі цяжка тут што-кольвечы змяніць. У мінулым годзе выехала вучыцца ў навучальных установах Беларусі п'яць выпускнікоў нашага ліцэя, у гэтым годзе ёсць магчымасць для дваццаці чалавек. Пакуль, аднак, гэтыя людзі вернуцца на Беласточчыну ды складуць патэнцыяльныя кадры нашага ліцэя, якія будуць навучаць на беларускай мове, пройдзе пяць альбо шэсць гадоў. З гэтага відаць, што працэс увядзення ў ліцэй навучання на беларускай мове патрабуе перад усім часу. Зрушыць гэту справу ў адзін момант — фізічна немагчыма.



*Васіль Дамброўскі.*

— *Як выглядае справа з наборам кандыдатаў, ці кандыдаты ў Ваш ліцэй здаюць нейкі экзамен па беларускай мове?*

**В. Дамброўскі:** Не, такога экзамена няма. Прыходзіць у нашу школу шмат моладзі, якая ў пачатковых школах беларускай мовы не вывучала — у нас упершыню пачынае яе вывучаць. У апошніх гадах ніякага клопату з наборам кандыдатаў не было. Вучні, бадай, адчуваюць, што з кожным годам наша база багацее, а да таго ва ўзроўні навучання ў параўнанні, скажам, з суседнім ліцэем, ніякай розніцы няма, дык у выніку ўвесь наш клопат заключаецца толькі ў новым будынку для школы. Калі ўжо я загаварыў пра ўзровень навучання, дык хацелася б мне таксама сказаць пару слоў пра сваю працу як настаўніка. У апошніх шасці гадах мае вучні былі найлепшыя ў конкурсах нямецкай мовы, у выніку чаго наша школа стала вядомай не толькі ў рэгіёне ды не толькі сярод арганізатараў гэтых конкурсаў, але і ў асяроддзях дыпламатаў Нямеччыны, Аўстрыі, Швейцарыі, якія прызнаюць у гэтых конкурсах узнагароды. Я асабіста атрымаў дзве стыпендыі — у Зальцбургу і ў Лейпцыгу. Вучні ў якасці ўзнагароды таксама атрымліваюць магчымасць выезду ў нямецкамоўныя краіны. Шмат якія лаўрэаты конкурсаў нямецкай мовы вывучаюць яе далей ва ўніверсітэтах. Хаця справа з навучаннем на беларускай мове ў нашым ліцэі складаная, то затое мушу сцвердзіць, што праз два-тры гады не будзе ў нашым ліцэі ніякага клопату з кадрамі для навучання нямецкай мовы.

— *Думаю ўсё ж, добра яно сталася, што новым дырэктарам стаў выкладчык нямецкай мовы, бо, па-мойму, калі чалавек вывучае нейкую мову, дык часткова засвойвае сабе культуру і склад думкі таго ж народа, а хіба трэба камусьці тлумачыць, наколькі гэта карыснае?! Дзякую Вам за выказванні.*

**Аляксандр Максімюк**
**Фота аўтара**



# ПРА НАШУ НАРМАЛЬНАСЦЬ

Так склалася, што днямі выйшла яшчэ адна кніжка Андрэя Садоўскага, прысвечаная доследам беларускага насельніцтва Беласточчыны. Называецца яна: „Вялікія і малыя народы. Беларусы ў Польшчы“ (Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce). Нашаму чытачу адкрыццяў у ёй не будзе, бо яе вартасць яму зусім у чым іншым — у сістэматызаванай па-навуковаму з'яве, імя якой: беларуская нацыянальная меншасць або беларусы ў Польшчы. Прытым гэту працу трэба чытаць асцярожна з увагі на вельмі ж нядбайную падрыхтоўку яе да друку, цэлую хмару памылак (напр. брэсцкую царкоўную унію перасунулі ў ёй на трыццаць гадоў раней!).

Садоўскі слабы ў гісторыі Беларусі, але моцны ў аналізах істоты беларускага насельніцтва Беластоцкага краю (напрыклад, памылкова паведамляе, што Савецкая Беларусь узнікла разам з Саюзам ССР у 1922 г.). Гэта, аднак, амаль што дробязі ў параўнанні з усім доследным матэрыялам. Найпершы вынік, які прабіваецца з яго разважанняў, мае для нас капітальнае значэнне: **няма аніякіх падставаў, каб надалей сцвярджаць, што нацыянальная свядомасць беларускай меншасці ніжэйшая**, чым, скажам, у палякаў або ў іншых еўрапейскіх народаў. Садоўскі прызнаецца, што так ён не думаў нават пару гадоў таму назад, пакуль не набыў арыентацыю ў падобнай праблематыцы па-за Беласточчынай, у Еўропе і свеце. Гаворку пра нашу патрыятычную неразвітасць называе цяпер міфам, грамадскай выдумкаю, што, зрэшты, тыпове ўсюды там на нашым кантыненце, дзе існуе с і т у а ц ы я м е н ш а с ц і (напрыклад, палякі, апынуўшыся за межамі сваёй дзяржавы, рэагуюць ідэнтычна). І так, узровень стану духа блытаем мы з яго грамадска-палітычнай сітуацыяй, у чым і прычына незразумелых на паверхоўны погляд эрупцыяў накшталт адраджэнскіх рухаў. Калі сярод беларусаў ёсць выразна мала нацыянальна свядомых, то не таму, што раса наша такая. **Бракуе нам беларускіх школаў, беларускіх цэнтраў культуры, беларускага палітычнага змагання, а ў выніку — беларускай перспектывы ў жыццёвым лёсе.** Поўнай інфраструктуры нацыі.

Кожная нацыянальная меншасць, якая сталася ёю ў выніку тэрытарыяльнага перамяшчэння суседніх дзяржаваў, мае на выбар наогул адзін з чатырох варыянтаў паводзінаў: або ўтрымацца, або асіміляваўцца, або адарвацца, або зрабіцца пануючай. Садоўскі заўважае, што ў Беластоку і ў мястэчках пераважаюць тэндэнцыі *„жыць пад паляка“*, а на сельскагаспадарчых тэрыторыях наглядаецца імкненне да захавання *„тутэйшасці“*, якая ў сваіх акультурненых формах фіналізуецца ў беларускасць. Няцяжка тут дагаварыць за Садоўскага, што паланізуемся мы не столькі ад кантактаў з палякамі, колькі ад імкнення да кар'еры, удачаў на будучыню. Нашы мяшчане адказваюць: калі б я працаваў у беларускай фірме або ў „Ніве“, то таксама быў бы беларусам!... Для аналогіі — з даўнімі і немалымі польскімі традыцыямі Усходнюю Прусію германізавалі не кайзер з Гітлерам, а нямецкая кірха і... фабрыка. Нацыянальная свядомасць нідзе і ў ніякім народзе не ёсць пашыранай на ўсіх. Заўсёды яна даволі элітарная, звязаная з адукаванасцю. Так і ў французаў, і ў немцаў, і ў каго хочаш. Колькі ж аказалася палякаў, гатовых кінуць Польшчу, вокам не маргнуўшы! Як правіла, найменш інтэлігентных. *„Гэта панам можна, як сабе хочуць...“* Польскі халоп або пралетарскі рабацяга ў царскі час чуўся перад усім католікам, не прыдаючы сваёй польскасці большага значэння. Старанліва хадзіў у рускую школу.

Праваслаўная рэлігія ў Беластоцкім краі выконвае ідэнтычную ролю адносна беларусаў (каталіцтва ў нас зніштожыла беларушчыну дакладна таксама, як пратэстантызм — мазурскую польшчыну). Датычыць гэта з'явы тоеснасці нацыі і дамінуючага ў ёй веравызнання (не адна Баварыя ёсць каталіцкай, але ўсё роўна глядзім мы на немца як на пратэстанта). Праваслаўе вызначае нашу іншасць у сужыцці з палякамі, але не з рускімі. У сутыкненні з літоўцамі або латышамі, але не з украінцамі (хоць частка іх — у колішняй Галіччыне — уніяцкая). Католікі з беларускамоўнай Сакольшчыны гладка асімілююцца, калі пакідаюць свае адвечныя, сялянскія, мачаннікі. Праваслаўныя ж мігранты — кандыдаты ў гарадскія паны — пераажываюць дзівакаватыя камплікацыі. У Беластоку або ў Бельску распадаюцца яны аж на чатыры як бы паднацыі: праваслаўных палякаў, палякаў беларускага паходжання, польскіх беларусаў, і — урэшце — толькі беларусаў (астатнім часам дзе-ні-дзе і ўкраінцаў).

Рост і кансалідацыя беларускага нацыянальнага руху, яго праваслаўнасць і арганізацыйная забудова ім арэалу Беласточчыны выклікаюць грамадскія працэсы, эфектам якіх ёсць хуткае і, здавалася б, парадаксальнае пашырэнне масы гібрыдных паляка-беларусаў, лю-

(Працяг на стар. 5)



 




### У СЯБЕ І НА СВАІМ

Нярэдка пачуеш цяпер: „Жывем у свабоднай краіне, на сваім і ў сябе". Жывем — як хочам. Гаспадарым мы цяпер у сваім доме! Прайшоў гэты час, калі намі кіравалі — цяпер самі сабою кіруем, што хочам, тое робім. А робім нямала. Толькі адно мучыць: ці з таго канца пачалі, што трэба? Ці ад зробленых спраў пачалі жыць лепш?

Надзелі карону арлу. Мяняем канстытуцыю. Здэмантавалі помнікі. Памянялі назвы вуліц. Ой, многа, многа зрабілі! Толькі ці ад гэтага быццё палепшылася? Гэтак рабілі не толькі ў вялікіх гарадах. І ў нашай Гайнаўцы перамены відаць. На грошы ніхто не глядзіць. Пытаю цяпер жыхароў вуліцы Пілсудскага: „Што, лепш жывецца, чым на Вызваленне?" „Так, лепш-лепш. Пытай, ці не горш! І на Валэнсавай лепш не будзе!".

На скверыку, што перад гарадской управай, танк стаяў. Пастамент зрабілі і паставілі — дулам на захад: няхай прыпамінае ваенныя гады. І тое, хто Гайнаўку вызваліў. Скінулі гэты танк.

Новае пайшло. Вайны не чуваць. Танк непатрэбны. Вызваляў? Вызваляў! — не адзін кажа. А хто яго прасіў сюды? Няхай стаяў бы сабе каля Масквы, а не да Гайнаўкі пхаўся! І то яшчэ дулам на захад і на касцёл?! А да бяды нядоўга. У лес за ёю хадзіць не трэба. Падумайце, даражэнькія: у Еўропу цяпер на танках не паедзеш. Яны адтуль варочаюцца! Ды яшчэ не ведаюць, кудою прапхнуцца! А нам лепш пачакаць адпаведнага чыгуначнага транспарту, тады нас там лепш прывітаюць. А ўжо хутка: яшчэ пару разоў цану білетаў уверх паднімуць — і мы ў Еўропе! Так, так, даражэнькія! Усяляк трэба падумаць. Нічога, што нялёгка. Было горш, і хвалілі. А цяпер — можна пачакаць! Не ўсё адразу, гэта ж не казка. Адно важнае, што мы „на сваім і ў сябе!". Дачакаем і на сваёй вуліцы свята; калі не мы, то нашы дзеткі.

Адно толькі празявалі: чаму нам вёскай танк не купіць? Як выехалі б на блакаду дарог, уся краіна загула б! Калі свабода, дык свабода! Тады, можа, і з мужыкамі загаварылі б, як з людзьмі!..

**Г. МАРОЗ**

## ВЫСТУПАЕ БЕЛАСТОК

Хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пачаў выязджаць на канцэрты па Беласточчыне. У апошнюю нядзелю красавіка беластоцкія спевакі наведалі Гайнаўшчыну. Першы канцэрт адбыўся ў Дубічах-Царкоўных. На месцы аказалася, што ў вёсцы два вяселлі (чаму гэты фактар не ўлічылі арганізатары з Гайнаўскага аддзела?), і на вялікую публіку разлічваць нельга. На дабавак не было плакатаў. Нягледзячы на ўсе складанасці, канцэрт адбыўся. Глядзела яго сорак чалавек.

Другі канцэрт, раней не планаваны, адбыўся ў малой вёсачцы Войнаўка. Паслухаць беларускія песні прыйшло таксама сорак чалавек. Людзі сардэчна ўспрымалі спевакоў, а солтыс вёскі ўвесь калектыў запрасіў на гасціну. Пасля канцэрта беластоцкія самадзейнікі спаткаліся з жыхарамі вёскі на ўлонні прыроды. **(л)**






*Сабор св. Мікалая ў Беластоку. Мал. Ежы Ленгевіча.*




**(Працяг са стар. 1)**

нікава. Бо з усіх крытэрыяў адбору пераважыў крытэрый мастацкасці, цэласнасці і гарманічнай закончанасці спектакляў, дзе перш за ўсё выяўляецца яскравая сцэнічная метафарычная мова, дзе тэатр найбольш поўна выкарыстоўвае толькі прысутныя яму як віду мастацтва выяўленчыя сродкі. А кажучы прасцей — хацелася прывезці тое, што дасць гледачу перш за ўсё задавальненне як цікавае відовішча, ліцадзейства. І, вядома, прымусіць крыху і падумаць.

Калі мастацкі кіраўнік тэатра імя Янкі Купалы Валерый Раеўскі ўпершыню прачытаў рукапіс драмы нікому яшчэ невядомага зусім маладога Уладзіміра Бутрамеева, яму адразу ж захацелася паставіць тут жа ўбачаны будучы спектакль, што бывае звычайна вельмі рэдка пасля першага знаёмства з кожнай п'есай. Тэатр фактычна адкрыў для нашай культуры гэта новае літаратурнае імя — Уладзімір Бутрамееў. Малады настаўнік акрамя гэтай драмы тады быў і аўтарам цікавых аповесцяў і апавяданняў, аднак выдавецтва ў Мінску, ужо ў гады перабудовы пабаялася выпусціць асобную кніжку прозы У. Бутрамеева, рассыпаўшы ў 1988 годзе нават набор. Абяцаюць выдаць сёлета. Пабачым.

Тэатр „спакусіўся" на дзіва раскаваным мысленнем маладога драматурга, свабодным ад путаў розных ідэйных і эстэтычных рэгламентацый, дакладным адчуваннем ім драматургічнай формы, уменнем бачыць і ствараць жывы, канкрэтны персанаж. Пра такую цудоўную ролю, як ролю селяніна Аўдзея, нават не марыў народны артыст Беларускай ССР Генадзь Аўсяннікаў, які бліскуча яе выконвае, ствараючы характар глыбокі, шматзначны і вельмі нацыянальны. Я не буду пераказваць, пра што гэта драма і калі, у які час адбываецца гэта напружанае дынамічнае дзеянне — усё вы ўбачыце, калі прыйдзеце на спектакль. Скажу адно: гледачоў здзіўляе ў гэтым спектаклі, па-першае, глыбіня драматургічнага канфлікту: неразуменне галоўным персанажам, чаму ён не можа жыць і працаваць нармальна, даведзена рэжысёрам і артыстам-выканаўцам да ўзроўню высокага, глабальнага, усяленскага абагульнення. Па-другое, спектакль спалучае плённыя народныя традыцыі і сучасную тэатральную асацыятыўную форму — адвечную паэзію жыцця беларусаў вобразна перадае амаль іканапісная сцэнаграфія мастака Барыса Герлавана і пранікнёная, узвышаная музыка кампазітара і арганіста Алега Янчанкі. Дакладныя іншыя акцёрскія работы (вылучым удзел у спектаклі народнай артысткі СССР, старэйшай актрысы і Беларусі, і ўсёй краіны Стэфаніі Станюты, народных артыстаў Беларусі Паўла Кармуніна, Марыі Захарэвіч, Ліліі Давідовіч, Паўла Дубашынскага, Генадзя Гарбука, крыху маладзейшых за іх Алены Іваннікавай, Зоі Белахвосцік, Аляксандра Лабуша, Юрыя Авяр'янава, Генадзя Давыдзькі) ствараюць вакол цэнтральнага персанажа не толькі рэальнае, але і духоўнае, біблейска-гістарычнае асяроддзе, вымярэнне. Нечаканы фінал спектакля незвычайна ўзрушае гледача эмацыянальна — аб гэтым сведчаць водгукі на спектакль не толькі ў Мінску і беларускіх гарадах, але і ў Маскве, Кіеве, Вільні, Рызе, дзе ён карыстаўся вялікім поспехам.

Камедыю „Вар'яцкае жыццё" напісаў вядомы сучасны драматург Сямён Злотнікаў, які жыў у Ленінградзе, потым пераехаў у Маскву, але вось ужо звыш года жыве ў дзяржаве Ізраіль. Калі вы паглядзіце наш спектакль па гэтай п'есе, пастаўлены рэжысёрам Андрэем Андросікам, то, мяркую, пераканаецеся, што рускую назву „Дурацкая жизнь" трэба было перакласці на беларускую мову толькі так: „Вар'яцкае жыццё". Спектакль у гратэскна-камедыйнай форме закранае многія праблемы сучаснага жыцця ў Савецкім Саюзе. Асацыятыўна тут гучаць і чарнобыльскія матывы, і лёс акадэміка Андрэя Сахарава, і роздум перад пагрозай сусветнай экалагічнай катастрофы. Сімвалічна, што гэты спектакль мы будзем іграць на зямлі Каперніка — генія, якога ў свой час нямногія разумелі. Ці зможа галоўны герой „Вар'яцкага жыцця" малады вучоны Жолуд, які прадказвае землятрусы (ролю выконвае заслужаны артыст БССР Аляксандр Падабед), вытрымаць усе ўдары бязлітаснага лёсу, парваць ланцугі і навуковага неразумення і маральнай глухаты навокал яго? Драматург і тэатр не могуць даць поўнага адказу на гэта пытанне. Але гледача захапляе востры, займальны сюжэт, сама сітуацыя — экстрэмальная, поўная недарэчнасцей і парадоксаў, дзе побач — гратэск і гумар, сарказм і фарс, горыч жыццёвай праўды і ўзнёслая мара, а часам — незвычайная шчырасць, адкрытасць, калі анічога не забаронена. Таму тэатр у праграмцы папярэджвае, што гэтыя так званыя „Сцэны канца свету" — толькі для дарослых. У спектаклі, на наш погляд, добра раскрыліся яскравыя камедыйныя здольнасці заслужанай артысткі БССР Наталлі Качатковай, неадназначныя воб-

Суму, на якую былі закуплены прадукты, упісваюць у Верыну чэкавую кніжачку. Праўдападобна, разлік ідзе толькі з банкам. Грошай ніякіх Вера не плаціла. Калі ў хаце пытаюся, што колькі каштавала, яна не надта ўмее мне адказаць, бо брала проста тое, што патрэбнае.

Выходзім на двор, коцячы перад сабой наш возік. Вера пад'язджае сваім „кадылляком“, і мы перагружаем усё ў яго змястоўны багажнік, пакідаючы возік на двары.

Паволі ўплываем у гараж, перад гэтым націснуўшы ў машыне гузік, каб адчыніліся дзверы. Адразу з гаража ёсць уваход на кухню. Уносім туды сумак восем ці дзесяць з прадуктамі, якія мы набылі ў супермаркеце. Вера не пакідае нічога не загаспадаранага. Мінут дваццаць, а мо нават і паўгадзіны раскладае ўсё па шафках. А ў Верынай кухні шафаў, шафачак, шуфлядаў — поўна. Для кожнай дробязі ёсць сваё месца. Нават для губкі, якой мые ракавіну, у шуфлядцы стаіць спецыяльная ванначка. Ёсць шафкі для сокаў у каробачках і бутэльках, шафкі для прыправаў, для папяровых талерак, для посуду — больш ужыванага і менш ужыванага. Фарфоравыя талеркі і кубкі зашмат месца не займаюць. Вера стараецца выкарыстоўваць больш папяровых талерак. Нам, азіятам, цяжка было прывыкнуць да іх: усе стравы нам пахлі паперай. Амерыканцы, пэўна, з гэтага запаху цешацца. Пры ўсім багацці, якое бачыш у магазінах, яны стараюцца есці як мага менш — каб толькі перабіць апетыт, каб не смактала. Шмат п'юць сокаў затое і ядуць салавіны. Але якія фігуры! Ды і склерозу няма.

*(Працяг будзе)*

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтара**

# Гайнаўскі музей

Ідэя стварыць Музей помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы ажыццяўляецца. Для беларусаў, якія ад стагоддзяў жывуць на гэтай тэрыторыі, а таксама для ўсяго грамадства будзе гэта паважная культурная ўстанова. У мінулым годзе закончылася прыстасаванне былога фабрычнага цэха на музейныя патрэбы. У ім будуць склады экспанатаў і кансерватарскія лабараторыі. Набліжаецца да канца будова трохпавярховага будынка, прызначанага на культурна-сацыяльныя мэты. У ім будзе кіназала, у якой можна будзе арганізаваць канферэнцыі, сімпозіумы, нарады на 100-200 чалавек, бібліятэка з чытальняй, бар-кавярня, начлежныя пакоі. Побач вырастае з зямлі першы паверх будынка, у якім будуць выставачныя залы.

У гэты аграмадны подзвіг уключыліся многія дзеячы, згуртаваныя ў Грамадскім камітэце пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры, БГКТ, БДА, БАС і іншых арганізацыях, вядомыя і ананімныя ахвяравальнікі. Многія работы пры пабудове Музея вяліся жыхарамі нашага рэгіёна на грамадскіх пачатках.

Справай пабудовы музея цікавяцца грамадска-культурныя арганізацыі і грамадзяне БССР. Пералічыць тут трэба Рэспубліканскае аддзяленне Савецкага фонду культуры, Беларускае таварыства „Радзіма“ ў Мінску і Гродне, РПП „Кинотехпром“ у Гродне, многія прадпрыемствы, калгасы і індывідуальныя ахвяравальнікі. З накопленых узносаў былі куплены і перададзены як падарунак будаўнічыя матэрыялы і абсталяванне. Гродзенскі „Кинотехпром“ установіць кінаапаратуру і наладзіць курс для кінааператараў (абсталяванне знаходзіцца ўжо ў Гайнаўцы). Неўзабаве пачнс працаваць, на перададзенай Музею таварыствам „Радзіма“ машыне, вышывальшчыца, якая вучылася вышываць на курсах у Мінску. І хаця на Беларусі зараз агульная сітуацыя цяжкая, усё ж абяцаюць яны далейшую падтрымку, прапануюць культурнае, гаспадарчае і турыстычнае супрацоўніцтва. Музей наведваюць госці з БССР, у тым ліку парламентарыі, гаспадарча-палітычныя дзеячы з вобласцей, мяжуючых з Беласточчынай.

Нельга не ўспомніць пра ахвяравальнікаў з доларавай зоны, раскінутых па ўсім свеце, асабліва са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, а таксама з Бельгіі, Англіі, Аўстраліі. Ад імя Грамадскага камітэта пабудовы Музея выказваю ім сардэчную падзяку.

Каля 30 працэнтаў панесеных ужо коштаў было перададзена з фондаў дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў. Думаю, што ўлады і грамадства Беласточчыны, вядомае сваёй грамадскай актыўнасцю, не пашкадуюць грошай, каб закончыць пабудову Музея.

Кожная форма дапамогі будзе сустрэта з удзячнасцю, бо і патрэбы аграмадныя. Музею патрэбная ўнутраная тэлефонная станцыя на 20-30 нумароў, тэлекс, тэлефакс для сувязяў з падобнымі ўстановамі ў краіне і свеце. Не кажу ўжо пра камп'ютэр, без якога дзейнасць Музея будзе немагчымая. Калі далей будуць паступаць ахвяраванні і датацыі на такім самым узроўні, як і раней, то ў канцы гэтага года можна будзе здаць у карыстанне сацыяльна-культурную частку Музея.

Зараз у Музеі можна паглядзець невялікую экспазіцыю этнаграфічных экспанатаў.

**Міхал Голуб**

# Кнаразоўскія ратаўнікі



У Бельскай гміне пачалося абучэнне ратаўнічых атрадаў. 21 і 28 красавіка г.г. у Кнаразах, у рамках цывільнай самаабароны, арганізаваліся курсы і практычныя заняткі на тэму „Надзвычайныя пагрозы ў мірны час і спосабы вядзення выратавальных акцый“. Дэманстраваўся таксама электронны дззіметр для вымярэння радыяцыі і спосаб яго прымянення. Заняткі арганізаваў інспектар Гміннай управы Мікалай Якубюк, а курсы вёў маёр Ежы Антоняк.

У атрадзе самаабароны ўдзельнічаюць мясцовыя пажарнікі і іх начальнік Ян Філіманюк (на здымку другі злева), які з'яўляецца таксама гмінным камендантам ОСП.

**М. Якубюк**
Фота аўтара

небяспеку дэмаралізацыі польскіх салдат. Дадатковай адмоўнай з'явай быў недахоп фінансавых сродкаў. Згодна з духам рыжскіх прэлімінарыяў трэба было пачаць ліквідацыю падраздзяленняў Балаховіча або даставіць іх у армію Врангеля, калі б было такое выразнае жаданне. Тым часам ад імя Балаховіча да шэфа Генеральнага штаба ГКВП Тадэуша Развадоўскага звярнуўся з пісьмом старшыня БПК у Польшчы Іван Васільеў. Падкрэсліў ён цяжкасці, якія не дазваляюць арміі выканаць загад пакінуць польскую тэрыторыю. Напрыклад, пашкоджанне чыгуначнай лініі Пінск-Мазыр. Каб выканаць загад, патрабаваў ён 1000 коней разам з сёдламі, некалькі соцень веласіпедаў, а таксама правіянт на некалькі дзесяткаў дзён. Актуальныя запасы харчоў у падраздзяленнях ацаніў ён на 7—8 дзён.

Вывад войск Балаховіча з тэрыторыі Польшчы з'яўляўся істотнай праблемай перагавораў у Рызе. У час мірных перамоваў савецкая дэлегацыя неаднойчы звяртала ўвагу на неабходнасць ліквідавання падраздзяленняў Балаховіча, дзеянні якіх маглі б стацца новай крыніцай канфлікту. Шэф польскай дэлегацыі ў Рызе Ян Домбскі ў адказе для савецкай дэлегацыі паведаміў аб загадзе ГКВП у справе ліквідацыі арміі Балаховіча. Паспяховае раззбраенне бачыў ён у вывадзе 18 дывізіі пяхоты да вусця ракі Морач. На пераломе лістапада і снежня 1920 г. гэтая дывізія выціснула на польскую тэрыторыю ў раёне Турава і Альшанаў падраздзяленне палкоўніка Язэпа Балаховіча, брата генерала. Той, аднак, не здаўся без барацьбы. Толькі цяжкія раненні ў бітве пад Якімовічамі прымусілі яго капітуляваць. Яго атрад у момант раззбраення налічваў 1500 пехацінцаў, 300 ездакоў і 6 гармат. Атрад масава папаўняўся ахвотнікамі з навакольных вёсак і дэзерцірамі з Чырвонай Арміі.

Савецкі бок, які дамагаўся ліквідаваць падраздзяленні Балаховіча, не прадбачыў іх узброенага паўстання. 1 снежня 1920 г. у Слуцкім павеце ўспыхнула паўстанне, накіраванае супраць савецкай улады. Арганізавала яе пры дапамозе II Аддзялення ГКВП — Беларуская рада. З увагі на мірныя перагаворы ў Рызе Польшча не магла даць афіцыйную мілітарную падтрымку падраздзяленням. У паўстанні прыняла ўдзел частка салдат Балаховіча, якія рашылі астацца на савецкай тэрыторыі.

28 лістапада 1920 г. польскую граніцу прайшлі 2 дывізіі і 3 падраздзяленні Станіслава Булак-Балаховіча, разам 3150 чалавек. 30 лістапада польскую граніцу перайшоў паранены Балаховіч у кампаніі членаў Беларускага палітычнага камітэта. Гэтых апошніх камандаванне IV Арміі Войска Польскага накіравала ў Варшаву.

Інструкцыю ў справе інтэрнавання Балаховіча дало II Аддзяленне ГКВП. Гаварылася ў ёй, што няўзброенага генерала трэба пакінуць разам са штабам у ізаляваным месцы. Войскі Балаховіча размешчаны былі ў лагеры, назначаным Міністэрствам вайсковых спраў. Дыслакацыя мела прадугледжваць прыналежнасць афіцэраў і радавых да нацыянальных падраздзяленняў і іх дружалюбныя адносіны. У межах лагера прадбачаны падзел на падраздзяленні, кампаніі, швадроны, сотні і батальёны з мэтай захаваць вайсковую дысцыпліну. Салдаты, якія прабывалі ў лагерах, мелі вучыцца ў падставовых школах, на шавецкіх і кравецкіх курсах і працаваць. У вольны час былі прадбачаны спартыўныя гульні і фізкультурныя зарадкі. Неабходнымі былі палічаны рэлігійныя патрэбы салдат.

Ад лютага 1921 г. да кожнага лагера меў быць назначаны праваслаўны капелан. Салдат Балаховіча інтэрнавалі, між іншым, у Чанстахове і Пятркове.

Інтэрнаванне войскаў Балаховіча наступіла ў першай палове снежня. Ужо 13 снежня камандаванне IV Арміі далажыла Міністэрству аб раззбраенні падраздзяленняў. Падсумоўваючы дзейнасць падраздзяленняў, тайны рапарт II Аддзялення сцвярджаў, што нанеслі яны Польшчы страты. Іх баяздольнасць не заўсёды адпаведна выкарыстоўвалася. Атрады з ахвотнікаў не саромеліся масавых грабяжоў, а нават забойстваў, што кепска ўплывала на маралітэт польскіх салдат — **многія палякі дэзерціравалі**, каб перайсці да Балаховіча.

Роспуск войскаў Балаховіча не абазначаў цалкавітую ліквідацыю антысавецкіх узброеных сіл на тэрыторыі БССР. Далей дзейнічалі партызанскія атрады „Зялёных“. У іх склад уваходзілі пераважна сяляне, якія не адабралі савецкую ўладу і раздзел беларускіх зямель. У партызанскіх атрадах на пераломе 1920/1921 гадоў было 6000 чалавек і гэтыя сілы мелі трывожыць савецкую ўладу на беларускай зямлі.

**Крыстына Гамулка**

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

**2. Адназначныя і многазначныя словы.**[1]

„Першапачаткова словы ўжываюцца як адназначныя. Многазначнасць развіваецца пазней у выніку дзеяння закона эканоміі моўных сродкаў, якіх у мове недастаткова для таго, каб кожная з'ява рэчаіснасці атрымала паасобнае слова-назву. Тады па аналогіі, асацыяцыі адбываецца перанос назвы аднаго прадмета на другі“.[2].

Словы, якія маюць адно значэнне, называюцца *адназначнымі* (*монасемантычнымі*). Адназначнымі з'яўляюцца:

— навуковыя і тэхнічныя паняцці (тэрміны): *інверсія, кісларод, малекула, прыметнік, бульдозер, падшыпнік;*

— назвы раслін, жывёл, птушак, прадметаў: *вярба, ландыш, алень, вавёрка, верабей, дзяцел, балея, кубел.*

Большасць слоў мае некалькі значэнняў. Такія словы называюцца *многазначнымі* (*полісемантычнымі*). напрыклад, слова *атмасфера*[3] мае пяць значэнняў: 1) газападобная абалонка Зямлі і некаторых іншых планет, 2) паветра, 3) адзінка вымярэння ціску, 4) *спец.* газ ці сумесь газаў, прызначаныя для правядзення ў іх асяроддзі якіх-небудзь дзеянняў, 5) *перан.* навакольнае асяроддзе, абставіны; слова *біцца*[4] мае адзінаццаць значэнняў: 1) біць адзін аднаго, 2) весці бой; змагацца; ваяваць, 3) ударыцца, стукацца аб што-н. або ў што-н.: рэзка, моцна дзейнічаць на пачуцці; імкнуцца пранікнуць куды-н. (пра святло, гукі, пачуцці і пад.), 4) калаціцца, кідацца; трапятацца, дрыжаць; *перан.* мітусіцца (пра думкі, пачуцці і пад.), 5) быць у пастаянным рытмічным руху; пульсаваць (пра сэрца, кроў), 6) *перан.* прыкладаць намаганні, каб дасягнуць чаго-н.; дамагацца з усіх сіл ажыццяўлення чаго-н.; *разм.* жыць у цяжкіх умовах, празмерна працуючы, 7) выцякаць імклівым струменем; выбівацца (пра бурныя праявы энергіі, пачуццяў і пад.), 8) прабівацца праз што-н., 9) раздзяляцца, дзяліцца, 10) разбівацца (пра шкло, пасуду), 11) *зал. да* біць, і г.д.

Калі слова мае некалькі значэнняў, то звычайна адно з іх з'яўляецца прамым лексічным значэннем, а іншыя — пераносныя.

*Прамым лексічным* значэннем называецца зыходнае значэнне слова, г.зн. тое, з якім слова ўзнікла і першапачаткова выкарыстоўвалася. На яго аснове развіліся іншыя значэнні ў выніку пераносу назвы з аднаго прадмета на другі.

Лексічныя значэнні, якія ўзніклі на аснове прамога значэння слова, называюцца *пераноснымі* значэннямі, напр.:

*прамое значэнне*

абарваць яблыкі
патушыць агонь
адкрытая кніга
балючая нага
вір ракі
гамоняць сябры

*пераноснае значэнне*

абарваць размову
агонь вачэй, агонь крытыкі
адкрытае сэрца
балючая размова
вір падзей
гамоняць лясы

---

[1] Літаратура: В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 12—16: В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с.с. 17—18.

[2] В. П. Красней, У. М. Лазоўскі, .. с. 17.

[3] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, Т. 1, Мінск 1977, с. 296.

[4] Там жа, с.с. 377—378.



# Соусы

### З ПЯЧУРЫЦ

На 20 дэкаў пячурыц трэба ўзяць 2 лыжкі алею, паўтары шклянкі малака, 3/4 шклянкі смятаны, 2 лыжкі мукі, 2 лыжкі масла, соль, перац.

Растапіць масла, перамяшаць з прасеянай мукой, нейкую хвіліну падаграваць, памешваючы, але не падсмажваць. Паволі даліваць у соус малако, мяшаючы венічкам і падаграваючы, пакуль не закіпіць. Тады дадаць смятану, перамяшаць. Пячурыцы ачысціць, памыць і дробна нашаткаваць, а тады крыху падсмажыць на алеі, пасаліць, спалучыць з соусам. Дадаць яшчэ солі і перцу і крыху падагрэць разам.

Падаюць яго да варанай гародніны, яек, рыбы і птушкі, а таксама да мучных страў і каш.

### ГАЛАНДСКІ

На паўшклянкі булёну трэба ўзяць паўшклянкі белага сухога віна, паўшклянкі салодкай смятанкі, 3 жаўткі, 1 лыжку масла, лімонны сок, соль, 1 лыжку мукі.

Муку прасеяць, перамяшаць з булёнам, падаграваць, збіваючы венічкам. Калі закіпіць, дадаць смятанку. Давесці да кіпення. Жаўткі, збіваючы, перамяшаць з віном. Падрыхтаваную мешаніну ўліваць, збіваючы далей венічкам, у гарачы булён са смятанкай, падаграваючы на невялікім агні і дадаючы пакрысе масла (дадаўшы жаўткі, нельга давесці соус да кіпення). Калі соус стане густым, трэба яго зняць з агню, дадаць лімоннага соку і солі.

Галандскі соус падаюць да печаных свініны і цяляціны.

### ГАРОДНІННЫ

На 30 дэкаў сэлераў трэба ўзяць 10 дэкаў морквы, 10 дэкаў пятрушкі, 1 цыбуліну, 1 бульбіну, 1 лыжку масла, 1 шклянку булёну, паўшклянкі смятаны, 3 лыжкі пасечанага кропу, соль.

Гародніну памыць, ачысціць, нарэзаць, пасаліць, дадаць масла. Хвіліну тушыць, заліць гарачым булёнам. Зварыць. Крыху астудзіць і працерці праз сіта. Падрыхтаваны соус перамяшаць са смятанай, падагрэць. Дадаць кроп, соль.

Гароднінны соус падаюць да варанай рыбы.

### ФРУКТОВЫ

На 20 дэкаў сушаных сліў узяць 1 яблык, паўшклянкі соусу ад печанай свініны, паўшклянкі смятаны, некалькі гваздзікаў, соль, цукар, перац.

Сушаныя слівы памыць, намачыць у вадзе. Пакінуць на некалькі гадзін. Калі разбухнуць, адцадзіць, выняць з іх костачкі і зварыць у той жа вадзе, у якой яны мачыліся (каля 3/4 шклянкі вадкасці). Яблык памыць, абабраць, нарэзаць, дадаць у слівы, якія варацца з некалькімі гваздзікамі. Звараны соус працерці праз сіта, перамяшаць са смятанай. Дадаць па смаку солі, цукру і перцу.

Фруктовы соус падаюць да страў з птушкі, печанай цяляціны, ці свініны. **Гаспадыня**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Не скажу — пажаніліся мы з вялікага кахання. Каханне, як ведаеш, не трывае, аднак, вечна. Нарадзілася ў нас двое дзяцей, калі мне было толькі 23 гады. Жонка мая занялася дзецьмі: вечна нешта мыла, варыла, карміла іх. Адным словам, усе яе думкі былі вакол дзяцей. Мо я памог бы ёй і больш, але меў вельмі адказную працу. Фактычна сустракаліся мы толькі вечарам. Уначы жонка тулілася да мяне, але зараз жа засынала, бо была занадта змучаная, каб рабіць нешта ўсур'ёз.

А я быў малады. Навокал было шмат прыгожых дзяўчат — нават і ў мяне на рабоце. Таму я дахаты занадта і не спяшаўся. Часта на рабоце здаралася вясёлая кампанія, дзе можна было і выпіць, і пажартаваць. Ну, і аднойчы пажартавалі. Былі нечыя імяніны, дзяўчаты крыху падпілі і пачалі мяне абцалоўваць. Адна спецыяльна пакінула след ад памады на маёй белай, святочнай кашулі, а я гэтага нават не заўважыў.

Прыйшоўшы дахаты, я даведаўся, што такое пекла. Як не тлумачыўся жонцы, што дзяўчаты зрабілі гэта для жарту, нічога не дапамагло. Яна і так была цвёрда ўпэўнена, што след пакінула мая каханка. А якая ж каханка, калі я яе не меў?!.

Мая жонка піліла мяне паўгода. Я ўжо да гэтага нават прывык. І так памаленьку вырашыў, што калі цярпець, дык ведаць, за што. Тады я першы раз здрадзіў сваёй жонцы. Пасля была другая і трэцяя дзяўчына, пакуль не сустрэў той адзінай.

У 30 гадоў я закахаўся без памяці, быццам нейкі смаркач. Мы пачалі сустракацца штодзень. І праца ў мяне не клеілася, і з жонкай не мог я гаварыць, калі адзін дзень не бачыў тае дзяўчыны. Мы сустракаліся пасля працы на кватэры майго сябры, які быў яшчэ нежанаты. Не хацелі мы нікуды ні хадзіць, ні паказвацца разам. Дастаткова нам было інтымных сустрэч. Яны паглыналі мяне цалкам. Толькі цяпер я даведаўся, які свет можа быць прыгожы і якія на свеце бываюць жанчыны.

І вось аднойчы я ізноў прыйшоў дахаты з памадкай на кашулі, якой не заўважыў раней. Глянуўшы на мяне, мая жонка пачала рагатаць: „Яны ўсё яшчэ хочуць жартаваць з табою?!“. Я не зразумеў, у чым справа, а яна тыцнула мне пад бараду на яскравую пляму. Я пачырванеў, а нават крыху перапужаўся, што жонка выкрые ўсё. Але яна на гэта нават не звярнула асаблівай увагі. І, уяві сабе, ніякага скандалу не было. Я надалей сустракаюся са сваёй дзяўчынай, але, вядома, жонку і дзяцей не кіну. Як ты думаеш, чаму мая жонка так зарэагавала? Першы раз жа, калі я прыйшоў са следам памады на кашулі, быў сапраўды жарт. Дзяўчаты нашыя ведалі, што жонка мая вельмі зайздросная, і зрабілі мне гэта спецыяльна. А цяпер была праўда, але жонка мая не сказала нічога. **Андрэй**

Андрушка! Не ведаю нават, ці ты чалавек сур'ёзны, ці не зусім. Ты ад пачатку не пераймаўся хатнімі клопатамі, а зваліў усё на сваю жонку. Вядома, сядзець у кампаніі і выпіваць з дзяўчатамі кожны ахвочы. У тваім пісьме я бачу нейкую дзікую радасць, што нарэшце ашукаў жонку па-сапраўднаму, але... адначасова і нейкі непакой.

І маеш рацыю! Ты сабе гуляеш, а жонка твая рэагуе на гэта зусім спакойна. У чым жа справа? Толькі два адказы могуць быць на гэтае пытанне: або ты стаўся ёй у сэнсе эратычным зусім абыякавым і гэткія справы не робяць на яе ўражання, або, што яшчэ горш, ёсць у яе іншы аб'ект, да якога яна можа палаць сапраўднай зайздрасцю. Маладзец дзяўчына! Часу не траціць. **Сэрцайка**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, я ўжо даўно не пісаў табе. Заўжды ты мне сны адгадваў правільна. Усё спаўнялася дакладна так, як ты гаварыў. А вось цяпер мне сніцца, што ідзем мы праз лес, усюды зелень, а пасля ідзем па нейкім лузе з сябрамі. І раптам бачу: ляцяць галубы, вельмі нізка, прыблізна на ўзроўні галавы чалавека. Я выцягваю руку наперад і лаўлю белага голуба. Астроне, што б гэта магло абазначаць? Спадзяюся, што і на гэты раз я атрымаю правільны адказ.

А вось і мой другі сон. Сніцца мне, што ідзем мы па дарозе з Оляй. Яна з Масквы. Гэта мая сяброўка, якой я асабіста не ведаю, а толькі з пісем. Пасля я глянуў, а яна ў парваных ботах. Я хацеў спытаць, чаму яна надзела такія боты, але якраз прачнуўся. І што б гэта магло значыць?

**А. Г.**

Астроне, мне прысніўся вельмі дзіўны сон. Быццам іду я па вуліцы з маёй сяброўкай, праўда, не ведаю з якой, але адчуваю яе побач. На двары ўжо змяркаецца. Ідзем далей, бачым, стаіць чалавек на падабенства Майжэша. Ён з барадой, палачкай, а на галаве ў яго шэры капялюш. І вось гэты чалавек пытаецца ў нас: „Дзяўчаткі, у якім вы класе?“. Я адказваю, што ў сёмым. Тады ён гаворыць нам: „Дзяўчаткі, дзякуй Богу, што вы ў сёмым класе, бо ў гэтым годзе будуць вельмі цяжкія экзамены для восьмых класаў!“. І на гэтым сон мой скончыўся. Дарагі Астроне, прашу, адкажы мне хутка, што абазначае мой сон?

**Эва**

А. Г.! Твой першы сон абазначае для цябе нешта вельмі добрае. Аб гэтым сведчыць тая зелень, якая была навокал, а асабліва галубы, якія заўсёды прадвяшчаюць мір, спакой і задавальненне.

Што датычыцца другога сну, дык прадвяшчае ён нейкае няўдачнае падарожжа (мусіць, для тваёй знаёмай).

А твой сон, Эва, не абазначае нічога асаблівага. Проста, пара вясенняя, у школах экзамены, а ты пра гэта ўвесь час думаеш і баішся ўжо наперад, бо ў будучым годзе прыдзецца здаваць і табе. **Астрон**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**АЛЕСЬ РАЗАНАЎ**

✲

Празрысты звон,
Грымотны грукат,
Скалісты svіст,
Магутны гул —
Усе
разрозненыя гукі
Цяклі
Каб зліцца
у агул,
Хісталі
ўздыбленыя хвалі,
Глыбаста білі ў небасхіл.
І ў немату
не прападалі,
А западалі
І раслі.
І ціш і гром,
І звон і шорах
Спляліся
ніткаю радства,
Калі з грудзей,
нямых і чорных,
Аднойчы
мова прарасла.

**ВАЛЯНЦІНА АКОЛАВА**

— Ты, першае слова, адкуль?
— Ад жытняга колаcа ў полі,
Ад вёскі, дзе родны твой кут
І неразгаданая доля.
— Ты, першае слова, адкуль?
— Ад матчынай песні
жытнёвай.
І колькі на гэтым вяку
Я ўцешыла праўдай жыццёвай.
— Ты, першае слова, адкуль?
— Ад ценяў дарогі сустрэчных.
І той, хто не знае пакут,
Пытаць пра мяне будзе вечна.

## Вясёлы кутOчак

**З газеты дзяцей Украіны „Зірка“**

**ПРАДБАЧЛІВАСЦЬ**

— Што гэта ты вяжаш, Ганулян?
— Шкарпэткі для брацiка.
— А чаму такія вялікія?
— Мама кажа, я вельмі павольна вяжу: пакуль я іх закончу, то брацік і вырасце.

**ХВОРАЯ КАТЛЕТА**

Сяргейка з татам селі снедаць. Бацька ўзяў катлету і памазаў яе гарчыцаю. А сын як закрычыць:

— Мама! Катлета захварэла: тата ёй гарчычнік ставіць!

* ✲ *

Хлопчык прыйшоў дадому з малышом на руках.

— Чый гэта малы? — пытае маці.

— Наш. Я абмяняў яго на самакат.



*Першыя крокі.* *Фота М. Лукшы.*

**Сцяпан Зар'ян**

## СКАЗ ПРА СВАБОДУ

Кажуць — пра гэта я чуў яшчэ даўно, — што некалі Свабода была прыгожай птушкай. Жыла яна воддаль ад людзей, у зялёных лугах, у пышных лясах ці высока-высока на скалах. Лунала вольна і спявала вольна...

І вось аднойчы людзі, якіх прыгнятаў князь, даведаліся ад аднаго старога мудраца, што калі прывядуць гэтую птушку Свабоду ў сваю краіну, не будзе больш прыгнёту, знікнуць турмы і кайданы.

— Дзе ж гэта птушка па імені Свабода? — спыталі людзі ў мудраца.

— Жыве яна далёка, вельмі далёка, у зялёных лугах, у пышных лясах ці высока-высока на скалах... Каб знайсці яе, патрэбны вялікае цярпенне і чыстае сумленне...

Паслухаліся людзі старога мудраца, сабралі атрад і выправіліся шукаць Свабоду.

Ішлі яны доўга-доўга, ішлі месяцы і гады, цярпелі нягоды, гублялі многіх... Ды, нарэшце, — і чаго толькі не зробіць чалавек! — знайшлі яны птушку Свабоду і з песнямі, з музыкай разам вярнуліся ў сваю краіну.

— Радуйцеся, людзі!.. Вось яна, Свабода!.. Гэтая птушка Свабода нясе нам шчасце!..

І сабраліся ўсе: і тыя, хто заставаўся ў краіне, і тыя, хто прывёў птушку.

Аб'ядналіся яны і заспявалі так весела і пераможна, што злосны ўладар са сваімі слугамі знік бясследна.

І залатапёрая Свабода, шырока раскінуўшы вогненныя крылы, успырхнула над краінай, паляцела над сёламі і гарадамі, над вёсачкамі і хутарамі, несучы з сабою весялосць і песні.

Ды вось, калі прайшла першая радасць, людзі, — ізноў жа, чаго не зробіць чалавек! — падумаўшы, што птушка Свабода можа вярнуцца ў свае зялёныя лугі і высокія горы, узялі і пасадзілі яе ў клетку.

— Не рабіце гэтага! — закрычала птушка. — Пакіньце мяне вольнай, і будзеце вольныя вы...

Не паслухаліся людзі.

Тады выйшла наперад некалькі чалавек, каб перашкодзіць астатнім зняволіць птушку.

— Пакіньце вы гэта, — сказалі яны. — Няхай птушка будзе вольнай, няхай лунае і лятае сабе вольна.

Ды першыя, іх было намнога больш, пасадзілі і заступнікаў разам з птушкай.

Убачыўшы гэта, Свабода закрычала яшчэ гучней:

— Не рабіце гэтага, адпусціце мяне!..

І людзі зноў не паслухаліся.

— Не, — сказалі яны, — ты пакінеш нас, паляціш, і нам зноў стане горш.

— Нельга мяне трымаць у клетцы, — сказала Свабода. — Калі вы не адпусціце мяне, вам будзе горш...

Як ні прасіла, як ні маліла Свабода, не паслухаліся яе людзі і пасадзілі ў клетку.

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Авяр'ян Дзеружынскі**

**У САДКУ**

Мы выйшлі
У садок вясною
Гаманліваю
Гурмою...
Дрэўцы пабялілі,
Быццам абнавілі
Усе стваліны-камялькі,
Каб жучкі і матылькі
Шкоды
Не нанеслі,
Сад расцвіў,
А салаўі
Заспявалі песні.

**ДЗЯДЗЬКА ДАЖДЖАСЕЙ**

Добры дзядзька
Даждасей,
На палеткі
Дожджык сей.
Завядзі
Устаноўку,
Хай працуе
Лоўка.
Дажджавыя кроплі
Сыпні
На каноплі
І на сіні лён,
Каб рос
Хутка ён.
Дзядзька,
Дзядзька Даждасей,
Цёплы,
Добры дожджык сей.

**АГРЭСТ**

Агрэст
Садзіла я вясной.
Ён ладзіцца
Не хацеў са мной,
Ды я на гэта
Не зважала,
Яго старанна
Даглядала.
Ну і было ж
Турботы з ім —
Скалоў мне рукі
Ён зусім!

А потым
Ягадкі даспелі,
Як безліч сонейкаў,
Ірдзелі,
Хоць шмат я
Зведала турбот,
Затое смачны быў
Кампот.



*Ілюстрацыя да казкі „Сінявочка". Ася Паўлючук, вуч. II класа, школа ў Храбалах.*

## Сказ пра Свабоду

**(Працяг са стар. 9)**

Але для Свабоды няма пера-шкод. Вольная птушка ноччу разбіла, разламала клетку вострай сваёй дзюбай і кіпцюрамі і паляцела да сябе ў зялёныя лугі, у густыя лясы, у далёкія-далёкія горы...

І збыліся словы вольнай птушкі. Зноў да людзей прыйшла бяда, вярнуўся жорсткі ўладар, і ўсё стала па-ранейшаму: непасільныя падаткі, перапоўненыя турмы

Тады ўспомнілі людзі пра птушку Свабоду, успомнілі і зноў пусціліся ў дарогу, каб знайсці і вярнуць яе назад.

І зноў ішлі яны доўга-доўга, ішлі месяцы і гады, цярпелі нягоды, гублялі многіх... І нарэшце знайшлі яе, пачалі прасіць, каб яна зноў вярнулася ў іхнюю краіну.

І вольная птушка адказала:

— Я вярнуся да вас, але абяцайце ніколі не садзіць мяне ў клетку. А ў турмы і клеткі пасадзіце зло і насілле.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, д. 9, кв. 126. **Гурыновіч Таццяна** (любіць слухаць музыку, збірае фатаграфіі акцёраў, шукае сяброў — адпіша ўсім).

* ✲ *

346514, СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Хабарова 14-73. **Фетисовой Ларисе** (13 гадоў).

* ✲ *

346514, СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Хабарова 14-72. **Грилевич Наташа** (11 гадоў).

## Вершы Віктара Шведа

### НАВУКА

Сястра пытае Мішку,
Які шалеў у хаце:
— Ці прачытаў ты кніжку,
Што атрымаў ад маці?

— Дык сёння ад мамусі
Такую меў навуку:
Да кнігі дакрануся,
Калі памыю рукі.

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:










6






















Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ТАЛАКА

*Музыка І. Паліводы*
*Верш Л. Пранчака*

Даўніны незабыўны ўспамін
Прыгадаю сёння ў журбе...
Што не зможаш адолець адзін, —
Талака дапаможа табе!
Хай руку прывітае рука,
Хай усмешка прагоніць тугу.
Талака, талака, талака —
Наш вясёлы няўрымслівы гурт.
*Прыпеў:* Талака, талака —
Звычай нашых дзядоў.
Талака, талака —
Сабіраецца зноў.
Талака, талака —
Ад зары да зары.
Талака, талака —
Мы з табою, сябры!
Мы асілім усё талакой.
Ты заўсёды са мной, я — з табой.
Не пакіне ў бядзе сябрука —
Талака, талака, талака.
Светлай радасці нам не суняць.
Хай да раніцы песні звіняць!
Хай шуміць, як вясною рака, —
Талака, талака, талака.
*Прыпеў.*

## НІЎКА

Я Б ХАЦЕЎ,
КАБ У МЯНЕ
АБЛЫСЕЛА
БАРАДА. ПРЫ-
НАМСІ НЕ ТРЭБА
БЫЛО Б БРЫЦ-
ЦА.

*Мал. Адама Сяменчыка.*

Вакол літаратуры і літаратараў

### „СОВСЕМ НА КРОЛИКА ПОХОЖ"

У канцы саракавых — пачатку пяцідзесятых гадоў рэдактарам часопіса „Вожык" быў Міхась Чавускі, які выступаў у друку пад псеўданімам Л. Вірня. І часопіс „Вожык" з вясёлага калючага, часам нават зубастага, якім быў пры Кандраце Крапіве, ператварыўся ў вельмі прэснае, нецікавае выданне. Што ні рабіла літаратурная грамадскасць, каб вызваліць „Вожык" ад няўмекі-рэдактара, — марна. Аднойчы ў Маскве быў агляд сатырычных выданняў Савецкага Саюза, і ў „Крокодиле" з'явілася пад партрэтам М. Чавускага эпіграма:

„Товарищ Чауский! Ваш „Ёж"
Совсем на кролика похож".

І гэта вырашыла лёс рэдактара „Вожыка". Ён быў, нарэшце, вызвалены ад пасады...

### НЕ ТРЭБА СМЯШЫЦЬ...

Алесь Ставер прынёс у рэдакцыю часопіса „Полымя" свой чарговы твор. Падсеўшы да загадчыка аддзела, каб, мабыць, яму спадабацца, падлесціць, пачаў гаварыць:

— Ты — вялікі, і я — вялікі, ты любіш народ, і я — люблю. І не трэба смяшыць каго б там ні было тым, што недастойна нас...

Загадчык аддзела моўчкі выслухаў Алеся Ставера, не перапыняў яго. Потым прачытаў твор і, калі Алесь Ставер прыйшоў зноў у рэдакцыю, пасадзіў яго побач з сабою і паўтарыў яму слова ў слова тое самае, што казаў некалькі дзён таму назад сам Алесь Ставер:

— Ты — вялікі, і я вялікі, ты любіш народ, і я — люблю. І не трэба смяшыць каго б ні было тым, што недастойна нас...

І вярнуў Алесю Ставеру яго твор.

Запісаў **Барыс Сачанка**, („Вожык")

### АНЕКДОТЫ АД ЧЫТАЧОЎ

У першых днях верасня 1914 года камендант гарнізона адной з брытанскіх калоній атрымаў ад генеральнага штаба зашыфраваную тэлеграму наступнага зместу: „Вайна аб'яўлена. Кропка. Неадкладна затрымаць усіх грамадзян непрыяцельскіх краін, якія знаходзяцца на вашай тэрыторыі".

Праз некалькі дзён у генеральны штаб прыйшла ад каменданта такая тэлеграма: „Затрыманы сем немцаў, тры бельгійцы, чатыры іспанцы, пяць французаў, адзін аргенцінец і адзін амерыканец. Кропка. Прэшу паведаміць, з кім ваюем".

* ✲ *

Аднойчы лорд Дабертан у час загараднай прагулкі быў заатакаваны пасвіўшымся на лузе быком. Пэру Англіі ўдалося захаваць жыццё і здароўе толькі пераскочыўшы плот. Тут ён сутыкнуўся з гаспадаром быка і наляцеў на яго з папрокамі.

— Луг гэты, сэр, — адказаў гаспадар, — мой уласны і я лічу, што мой бык мае не меншае права гуляць па лузе, чым вы.

— А вы ведаеце, хто я такі? Я лорд Дабертан, член палаты лордаў!

— Вось гэта і трэба было сказаць быку.

Даслаў **Юрка Казак з Гародні**

*Мал. В. Дубовіка.*

ПРЭЙСКУРАНТ
ЦЭН НА ПАСЛУГІ НАСЕЛЬНІЦТВУ
1. ПРЫВЕЗЦІ ДРОВЫ ..... 4 БУТ.
2. ПАРЭЗАЦЬ ДРОВЫ .... 3 БУТ.
3. ПАСЕКЧЫ ДРОВЫ ..... 3 БУТ.
ДЗЕНЬ) ......0,250
ГАЗ ...... 1 БУТ.
КОМІН ........ 1 БУТ.
КАБАНА ...... 1 БУТ.
ПАСЛУГІ .... 1 БУТ.
ЗАЎВАГА: РУБЛІ НЕ ПРАПАНОЎВАЦЬ

*Мал. П. Козіча.*

### САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

**Феадосій Мандзюк**

* ✲ *

Узяў крыху зямлі ў арэнду,
Збудаваў сабе фазэнду.
І цяпер вось дрэнна спіцца,
Бо Сібір начамі сніцца.

**Валянціна Сцепаненка**

#### З ЧЫМ ЖА?

Добра, што пішуць:
„З мясам"! —
Пончык хваліў Яфім,
Бо даядаеш часам,
Так не дазнаўшыся з чым!

**Васіль Краўчук**

#### КАЛІСЬЦІ І ЦЯПЕР

Калісьці дрэнна вучыўся Панас,
Цягнулі Панаса з класа ў клас.
Цяпер жа загадчык базай Панас
І цягне ён з базы кожны раз.

#### НЕ ТЫЯ ПАРАДКІ

Санаторый крайне раззлаваў
Ігната:
— Бесталкова! Тут няма
парадку.
Я прыехаў, каб адпачываць,
А яны: „Уставай, рабі зарадку!"

#### АПТЫМІСТ

— Ура! Праз тыдзень, тата,
я жанюся! —
Сказаў сын бацьку вінавата.
— Ого! А жыць на што?
— А, пераб'юся.
Стыпендыя ды плюс твая
зарплата.

*З украінскай мовы пераклаў В. Бабей*


## Ніва

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палопкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa", ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

I. Prenumerata pocztowa

1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1991 r. upływa 20 maja 1991 r.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— maj — 7.200 zł.
— czerwiec — 9.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 554/91.


## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

Нараджаецца беларускі рабочы рух ● Пленум БГКТ у Гайнаўцы ● Спроба самавызначэння або Аб чым дыскутавалі „белавежцы" ● „Тутэйшыя" на Беласточчыне ● Гора ад бяспамяцтва ● Эліза Ажэшка ў сённяшнім Гродне ● Святыя беларускай зямлі — св. Ефрасіння Полацкая.